АДНАДНЁЎКА. Цана 20 гр.

# ВЫЯСЬНЕНЬНІ

Адрэс выдавецтва: Вільня, Каралеўская вул. 3 — 8.

Вільня, Нядзеля 3 ліпня 1935 г.

## Да Прэзыдыуму Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні.

Прабег Агульнага Сходу Беларускага Нацыянальнага Камітэту, адбытага 12 траўня с. г., яшчэ раз пераканаў нас, што далейшае супрацоўніцтва ў Нацыянальным Камітэце з Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыяй, пры выяўленых ёю адносінах да іншых партый, зьяўляецца немагчымым, і дзеля гэтага мы, ніжэйпадпісаныя, заяўляем аб выхадзе з ліку сяброў Б. Н. К.

Прадстаўнік Беларускага Сялянскага Саюзу **Ф. Ярэміч.**

Прадстаўнікі Беларускага Праваслаўнага Дэмакратычнага Аб'еднаньня: **В. Багдановіч, І. Біндзюк і Г. Багдановіч.**

Прадстаўнік рэдакцыі „Беларуская Борць“ **М. Манцэвіч.**

**М. Якімец.**

7 чэрвеня 1935 г.

P. S. Пісьмо даручана прэзыдыуму Б. Н. К. — 10 чэрвеня 1935 г,





## Колькі слоў праўды.

„Беларуская Крыніца“ ў нумары за 19 траўня с. г. зьмясьціла справаздачу з дзейнасьці Прэзыдыуму Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні за 1934-5 г.г. і *афіцыяльнае* апісаньне прабегу адбытага 12 траўня гадавога агульнага сходу Б. Н. К.

Справаздача гэтая ня зусім правільна падае дзейнасьць Прэзыдыуму, а ў часткы, якая адносіцца да Агульнага Сходу, абойдзены моўчкі мамэнты, ня зусім прыемныя для БХД, (беларускай хрысьціянскай дэмакрацыі, ці як скарочана яе называюць хадэцыі), органам якой ёсьць „Крыніца“,— але якія па сутнасьці зьяўляюцца самымі важнымі, бо выяўляюць тыя запраўдныя ўзаемаадносіны, якія стварыліся ў Б. Н. К. паміж хадэцыяй і асобамі іншых палітычных напрамкаў.

Для выясьненьня праўды пазваляю сабе забраць у гэтай справе голас, тым балей, што ў выніку ўспомненых узаемаадносін, я асабіста змушаны быў пакінуць залю паседжаньня сходу, заяўляючы адначасна нават аб выхадзе з Б. Н. К.

Каб высьвятліць прычыны, якія змусілі мяне на гэты шаг, затрымаюся крыху над справай майго ўваходу ў Камітэт, а распачну ад таго моманту, калі хадэцыя пачала ў Б. Н. К. сваю экспансыўную палітыку.

Калі ў выніку „дварцовага перавароту“, левыя ўгрупаваньні адыйшлі ад Б. Н. К., хадэцыя, дзякуючы колькаснай перавазе, атрыманай праз увядзеньне ў Камітэт сваіх дробных прадпрыемстваў, якія стварыла дзякуючы спрыяючым яе працы абставінам, пачынае апановываць прэзыдыум Камітэту, адсоўваючы пакрысе на другі плян прадстаўнікоў іншых палітычных напрамкаў, якія былі ў Камітэце.

Пасьля захопленьня кіруючых пасад у прэзыдыуме хадэцыя пачынае ўжо праўдзівы зьдзек над тымі асобамі, якія не паддаваліся яе ўплывам. Яскравым прыкладам гэтага зьяўляюцца выяўленыя ў 1933 г. адносіны кіраванага хадэцыяй прэзыдыуму Камітэту да свайго віцэ-старшыні б. сэн. В. Багдановіча. Ня буду затрымлівацца над гэтай справай, бо гр. В. Багдановіч сам дакладна высьвятліў яе.

Мушу сьцьвярдзіць, што добра знаная ўсім тактыка хадэцыі выклікала ў беларускім грамадзянстве нэгатыўнае адношаньне і да Нацыянальнага Камітэту, які ўсе лічылі Камітэтам хадэцкім, а не агульна беларускім.

Пры гэтакім крытычным адношаньні да Нац. Камітэту, большасьць нашага грамадзянства прынцыпова прызнавала аднак патрэбным існаваньне Камітэту, як агульна-беларускага цэнтру, але ніхто не прызнаваў за хадэцыяй права рэпрэзэнтаваць праз Камітэт агульна-беларускі рух. Выходзячы з гэтага, шмат хто свой уваход у Камітэт узалежніваў ад нэйтралізацыі ў ім уплываў хадэцыі. Да асоб, якія прызнавалі патрэбным існаваньне Камітэту, належаў і я. Разыходжаньне маё з іншымі палягала толькі на тым, што гэтую нэйтралізацыю, паводле маей думкі, павінны зрабіць мы самі, масова ўваходзячы ў Камітэт.

Дзеля гэтага я даў у 1934 годзе сваю згоду на ўваход у Камітэт, прымаючы мандат ад рэдакцыі „Самапомачы“, ў якой я ў той час пробаваў супрацоўнічаць. Зрабіў гэтак дзеля таго, што ніводная арганізацыя, з якой я быў зьвязаны цясьней, у Камітэт не ўваходзіла.

Сваім уваходам я хацеў зрабіць спробу і паказаць іншым, як на грунце Нац. Камітэту можна знайсьці супольны язык нават з хадэцыяй, і распачаць гэтым аздараўленьне Камітэту.

На жаль пасьля гадавой працы ў Прэзыдыуме Камітэту прышлося і мне пераканацца ў тым, што праціўнікі ўступленьня ў Камітэт мелі больш рацы, чым я.

Чакаць на гэтае доўга ня прышлося.

Створаны ў 1934 г. Прэзыдыум, у які ўваходзіў і я, але які быў кіраваны хадэцкай большасьцю (кажу—большасьцю дзеля таго, што з 5 сяброў Камітэту было 2 хадэкаў і 1 нац.-сацыяліст, які нічым ня розьніцца ад хадэкаў), зараз-жа пасьля сходу, бяз нашага ведама і згоды, надаваў польскай прэсе „вывядаў“, якія толькі выставілі на сьмех Нац. Камітэт, а былі патрэбны хадэцыі для яе партыйных мэтаў. Падобныя „вывяды“, і таксама не заўсёды карысныя для беларускага руху, даваліся Прэзыдыумам увесь час. Тут мушу адзначыць, што вельмі дзіўным зьяўляецца зробленая на Агульным Сходзе Старшынёю Камітэту заява аб тым, што „вывядаў“ ён не даваў. Відаць п. Старшыня ня помніць нават таго, што на адным з паседжаньняў Прэзыдыуму ён заявіў, што „вывяды“ гэтыя даваў ён.

Але пайду далей.

Шмат разоў я гутарыў з п. Старшынёй Камітэту, дамагаючыся, каб Камітэт распачаў акцыю аб'еднаньня каля сябе беларускага грамадзянства. П. Старшыня прынцыпова як быццам і згадзіўся з гэтым, але за ўвесь час не знайшлося нават і хвіліны, каб заняцца гэтай справай. Прадбачу, што атрымаю закід, чаму-ж гэта, я сам не парушыў гэтай справы, на адным з паседжаньняў Прэзыдыуму. Ня мог гэтага зрабіць, дзеля таго, што справы, якія ставіліся на разгляд п. Старшынёю, звычайна так зацягваліся, што ад унясеньня якога-небудзь новага пытаньня на парадак дня ў бягучых справах заўсёды прыходзілася адмаўляцца. А мушу дадаць, што справы, якія прыходзілася разглядаць, вельмі часта былі зусім непатрэбныя, і для іх склікаўся нават агульны сход Камітэту, як гэта было, напрыклад, са справаю зьмены рэгуляміну. І дзіўным выглядае тое, што зьмена, якую ў гэтакім прысьпешаным тэмпе некалькі месяцаў назад правадзіла хадэцыя ў рэгуляміне Нац. Камітэту, зараз прызнана ўжо непатрэбнай, і гэта тады, калі хадэцыя пазбавілася ў Прэзыдыуме К-ту „інакомысьлячых“. Баяцца мусіць, каб на падставе прынятай тады зьмены не ўвайшлі ў Прэзыдыум аўтоматычна непажаданыя для іх асобы. Увесь сэнс гэтых зьменаў у тым, што ў першы раз у рэгулямін увялі пункт аб пашыраным прэзыдыуме, які склікаецца для вырашэньня пытаньняў палітычнага характару, і ў склад якога акром прэзыдыуму павінны ўваходзіць прадстаўнікі палітычных партый, якія не ўвайшлі ў выбарны прэзыдыум. На парадак дня новага сходу, які быў скліканы на 10 чэрвеня с. г., быў пастаўлены на разгляд новы праект рэгуляміну, у якім пункт аб пашыраным прэзыдыуме ўжо скасаваны: Нашто і каму патрэбны гэтыя зьмены? Якія карысьці могуць даць яны беларускаму руху? Ніякіх! Патрэбны яны толькі хадэцыі, дзеля яе партыйных камбінацыяў!

І вось для гэтакага „калектыўнага марнаваньня часу“, як гэта вельмі трафна назваў такі сход Камітэту адзін з яго ўдзельнікаў, час знаходзіўся, а затое справа аб'еднаньня ніяк не магла трапіць на парадак дня.

Дзеля гэтага сьцьвярджаю, што справаздача, якая датычыцца арганізацыйнае дзейнасьці Прэзыдыуму, не адказвае праўдзе. Прэзыдыум ня выявіў ніякай дзейнасьці ў напрамку арганізацыі. Уваход у Камітэт Т-ва „Пчала“ і рэдакцыі „Беларуская Борць“ ня ёсьць вынікам стараньняў у гэтым напрамку Камітэту, як гэта пададзена ў справаздачы. Арганізацыі гэтыя ўведзены ў Камітэт выключна мною. Ня буду скрываць,

(Працяг на адвароце).

што гэтым я хацеў павялічыць ў Камітэце нехадэцкі лягер, спадзяючыся гэтакім шляхам асьвяжыць на Агульным Сходзе згушчанае паветра і прычыніцца праз гэта да аздараўленьня Камітэту.

У сакавіку с. г. адбылося два паседжаньні Прэзыдыуму Камітэту, зьвязаныя са справаю прамовы ў Сойме пасла Ф. Ярэміча. Тут хадэцкая большасьць прэзыдыуму выказала maximum нятакту ў адносінах да нас (мяне і гр. В. Багдановіча), як сяброў Прэзыдыуму — прадстаўнікоў іншых палітычных кірункаў.

Ня буду затрымлівацца і над гэтай справай, бо ў іншых артыкулах яна дакладна абгаворана.

Калі мы з гр. В. Багдановічам унясьлі ў Прэзыдыум пратэст супроць узурпацыі хадэцкай часткай Прэзыдыуму правоў цэлага Прэзыдыуму, дык пратэст гэты вынікаў пазытыўных ня даў.

Ня было зьмешчана нават нашае пісьмо ў рэдакцыю „Бел. Крыніцы“, хоць да гэтага абавязвала яе прэсавая устава, не кажу ўжо аб этыцы.

Калі я выступіў супроць пастановы хадэцкай часткі прэзыдыуму, дык хадзіла мне не аб абарону асобы пасла Ф. Ярэміча, а выключна аб гонар Нацыянальнага Камітэту.

Бароначы гэты гонар, мы ня толькі не апублікавалі тады нашага пісьма ў польскай прэсе, але ня вышлі з Камітэту, а нават і з прэзыдыуму, і пастанавілі зрабіць яшчэ адну апошнюю спробу бараніць Камітэт ад гвалту хадэцыі, якая, ня лічачыся ні з чым, выкарыстоўвала аўторытэт Нац. Камітэту для сваіх вузка-партыйных мэтаў.

Мы пастанавілі апэляваць да Агульнага Сходу.

Дзеля гэтага, пасьля афіцыяльнай справаздачы, гр. В. Багдановіч выступіў з рэчовай крытыкай дзейнасьці ў Прэзыдыуме хадэцыі, указываючы на тыя нятакты і памылкі, якія былі зроблены ў мінулых гадох.

Ня хочучы аднак разьбіваць К-ту, гр. В. Багдановіч, згодна з правіламі вядзеньня сходаў, фармальна, за сваім подпісам, унёс праект рэзалюцыі, у якой, указваючы на робленыя памылкі, запрапанаваў прыняць справаздачу да ведама з пажаданьнем, каб у будучыні прэзыдыум не рабіў тых памылак і нятактаў, аб якіх была гутарка на Сходзе.

Рэзалюцыя гэтая, насуперак аснаўным правілам вядзеньня сходаў, ня была нават пастаўлена на галасаваньне, бо старшыня Камітэту угледзіў у ёй „зьмену рэгуляміну“ і дабіўся перанясеньня яе ў бягучыя справы.

Гэткае адношаньне да нас, як апазыцыі, яшчэ раз пераканала нас, што тактыка хадэцыі ня ёсьць непаразуменьнем ці памылкаю, а наадварот усвоенаю хадэцыяй сыстэмаю кіраваць праз Нацыянальны Камітэт усімі іншымі групамі і накідваць ім сваю волю, і дзеля гэтага мы прызналі немагчымым далейшае супрацоўніцтва ў прэзыдыуме Б. Н. К. і адмовіліся ўсе ад яго выбараў.

Тут мушу зьвярнуць увагу чытача на цікавы факт. Гр. Я. Пазьняк застаўся выбраным на Старшыню Камітэту і прыняў выбар, атрымаўшы 12 галасоў пры 27 прысутных на Агульным Сходзе. Гэтакая большасьць-гэта першы выпадак у гісторыі Б. Н. К. Каб прыняць гэтакі выбар, трэба мець шмат грамадзкай адвагі.

Калі перасунутая ў бягучыя справы, як „зьмена рэгуляміну“, рэзалюцыя гр. В. Багдановіча апынулася на парадку дня, дык хадэцкае кіраўніцтва сходу не дало мне нават права запытацца, якую зьмену і у якім § рэгуляміну хочуць зрабіць аўтары „зьмены“? Я меў права на гэткае запытаньне дзеля таго, што паложаная ў аснову гэтае „зьмены“ рэзалюцыя грам. В. Багдановіча аб ніякай зьмене не ўспамінае, а наадварот, падчырківае аснаўныя палажэньні канстытуцыі Камітэту. Старшыня Сходу, на маё дамаганьне высьвятліць гэтую справу, адказаў толькі, што яна ўжо вырашана агульным сходам і голасу аб ёй ён нікому ня дасьць. Тады мне засталося толькі адно: зажадаць упісаньня ў пратакол пратэсту супроць падобнага вядзеньня сходу, а калі Агульны Сход, хадэцкай большасьцю, салідарызаваўся з гэтакім вядзеньнем сходу, дык я быў змушаны ўжо пакінуць залю паседжаньня і заявіць аб сваім выхадзе з Нацыянальнага Камітэту. Пазьней пакінуў залю. і пасол Ф. Ярэміч. Усе гэтыя мамэнты, якія, зразумела, зьяўляюцца для хадэцыі вельмі няпрыемнымі, у яе справаздачы ў „Бел. Крыніцы“ зусім абойдзены.

Падаю ўсё сказанае да агульнага ведама, але ня з мэтаю сваркі, а наадварот, хачу каб маё выступленьне было пачаткам аздараўленьня атмосфэры ў нашым беларускім жыцьці і прычынілася да справы стварэньня агульнага беларускага фронту.

Хачу, каб і паны з хадэцыі зразумелі, што тактыка іхная, у адносінах да беларусаў — нехадэкаў, карысьці беларускаму руху прынясьці ня можа, і што прыўлашчанае імі верхаводзтва ў беларускім вызваленчым руху нікім апрача іх самых не прызнаецца.

Калі хадэцыя прызнае патрэбным існаваньне супольнага беларускага фронту, дык няхай-жа яна зразумее, што стварэньне яго, ці то на грунце Нацыянальнага Камітэту, ці на якім іншым, магчыма толькі тады, калі ўсе зблёкаваныя групы будуць глядзець адна на адну, як роўныя на роўных, бо ня кожная партыя можа згадзіцца на палажэньне падуладнага другой партыі.

Вырашэньні справаў ў гэтакім блёку магчымы толькі шляхам паразуменьня і компромісаў. Накідваньне-ж сваіх думак, свае́й волі і яшчэ ў грубы спосаб, як гэта робіць хадэцыя, пазытыўных вынікаў ніколі ня дасьць, а наадварот, прыводзіць толькі да разрыву. Няхай хадэцыя зразумее, што на яе клерыкальнай пляцформе ўсяго беларускага руху аб'яднаць немагчыма, бо ён значна шырэйшы і глыбейшы за погляды і ідэалёгію хадэцыі. Нікога не пераканае і тое, што быццам каля хадэцыі гуртуюцца беларусы і нехадэкі, і ня толькі каталікі але і праваслаўныя. Пісаць аб гэтым можна, але думаць, што хто-небудзь паверыць у гэта — будзе больш чым наіўна. Некалькі асоб не хадэкаў, якіх хадэцыі ўдаецца часам прывабіць да супрацоўніцтва—гэта яшчэ нічога не даводзіць. Трэба, каб хадэцыя зразумела, што ня могуць усе беларусы думаць хадэцкімі клерыкальнымі формуламі. Існавалі і будуць існаваць розныя іншыя напрамкі беларускае палітычнае думкі. Кожная група працавала і будзе працаваць на карысьць беларускага вызваленчага руху. Кожны працуе так, як падказвае яму ягонае сумленьне і як ён умее, а чыя праца карысьнейшая, дык свой прысуд аб гэтым вынясе гісторыя.

Трэба, каб хадэцыя зразумела гэта і не на словах, а на практыцы прыступіла да свайго абнаўленьня, аб якім яна так шмат піша ў сваёй газэце, і ў першую чаргу пераглядзела і абнавіла сваю тактыку ў адносінах да беларусаў - нехадэкаў. Тады магчымым было-б паразуменьне і можна было-б стварыць супольны беларускі фронт.

Прызнаем, што патрэбна крытыка і ад яе ніколі не адмаўляемся. Але крытыка гэтая павінна быць рэчовая, здаровая, а не насіць ў сабе вядомых тэндэнцыяў, якія аддаўна, дзякуючы пэўным асобам, запанавалі ў беларускай прэсе. Лаянкам не павінна быць месца ў гэтай крытыцы.

А паны з хадэцыі, пакуль што, ад гэтага ніяк ня могуць адмовіцца. Гэты тон, гэты хадэцкі спосаб мышленьня і выражэньня, чалавеку, шануючаму сябе, не пазваляюць адказваць на іхныя артыкулы. З гэтае прычыны пакідаю без адказу і перадавіцу з № 24 „Беларускай Крыніцы“. Паном з хадэцыі варта нарэшце зразумець, што іхная лаянка нікога нават не абражае, а толькі выяўляе ровень іхнае культуры.

**М. Манцэвіч.**

# МОЙ АДКАЗ кіраўніком Беларускай Хадэцыі.

Ад неякага часу пачалася траўля мяне з боку хадэкаў; у прыватных гутарках, некаторыя асобы з кіраўнікоў хадэцыі стараліся ачарніць мяне рознымі спосабамі. Праўда, чарнілі мяне з розных бакоў, як кажа руская прыказка „Склонялі по всем падежам“—няхай будзе яшчэ і беларуская хадэцыя. Я публічна не адказваў, думаў, што пакрычаць, пашумяць ды і перастануць, бо кожная грызьня беларусам карысьці ня прыносіць, а аказалася, што Хадэкі, страляючы ўасобу Ярэміча, рыкашэтам пападалі ў сябе.

Што ў сябе, то мне гэта надта мала абходзіць, але, што яшчэ горш, рыкашэт пападаў у беларускія арганізацыі. Каб ня быць галаслоўным, вось факты: у прошлым годзе зарганізавалі „сваіх“, каб мяне не дапусьціць у прэзыдыум Б. Н. К.; пасьля выбараў далі ў польскую прэсу „wywiad“, што таму пасол Ярэміч ня выбраны ў прэзыдыум Б. Н. К., бо ён вёў апазыцыйную палітыку ў сойме, а Камітэт з такой палітыкай не салідарызуецца; рэзультат быў такі, што трэба было гэтым паном „wywiad“, свой адклікаць і пісаць артыкулы дыскусыйныя ў „Крыніцы“ і ў канцы канцоў амаль ня ўся прэса польская асьмяяла Б. Н. К. У гэтым годзе пасьля маей прамовы, сказанай у Сойме 6.II.35 г. пры бюджэце, Хадэкі хацелі з мяне зрабіць амаль ня здрадніка беларускага народу. Расьпісалі ў „Крыніцы“. Склікалі прэзыдыум Б. Н. К. і ня гледзячы, што двух сяброў прэзыдыуму было проціў, т. е. б. сэн. Багдановіч і грам. Манцэвіч, аднак карыстаючы з часовай адсутнасьці двух зяброў прэзыдыуму, выносяць пастанову, што яны не бяруць адказнасьці за маю прамову. Багдановіч і Манцэвіч падаюць пратэст і гэтага пратэсту нават ня друкуюць у „Крыніцы“. Таксама не друкавалі маей прамовы, каб чытач мог абсудзіць і крытыкаваць.

Гэта запраўды дзіўная этыка.

Далей, калі мы 12.V.35 выйшлі з паседжаньня Камітэту і ня прынялі ўдзелу ў выбарах прэзыдыуму, праводзяць рэзалюцыю, адбіраючы правы мне рэпрэзэнтаваць Б. Н. К. т. е. хадэцыю.

Б. Н. К. паводле сваей канстытуцыі складаецца з усіх беларускіх арганізацыяў, якія прызнаюць ідэолёгію незалежнасьці і пасылаюць сваіх прадстаўнікоў, палітычных па 3-х, а культурна-прасьветных ці гаспадарчых па два. Гэтая арганізацыя павінна быць сьцісла грамадзкая, каторая злучае толькі ідэолёгічна. Ніхто ня мае права накідаць сваіх поглядаў адзін другому, ці арганізацыя арганізацыі. У такой арганізацыі павінен быць кампраміс. Калі ў 1927 годзе Беларускі Сялянскі Саюз і Праваслаўнае Аб'еднаньне пайшлі на выбары ў гарадзкую раду і правялі б. сэн. Багдановіча, а беларуская хадэцыя не пайшла, то аднак Нацыянальны Камітэт гэтым не займаўся, бо гэта была тактыка. Я ёсьць пасол Беларуска-Украінскага блёку, але ў гэты блёк уваходзілі палітычныя групы, якія даходзілі да паразуменьня падчас выбараў. Прыкладам, хадэцкі кандыдат стаяў у сьвянцянскім вакрузе, я быў у лідзкім, гр. Багдановіч быў пастаўлены кандыдатам у сэнат па віленскім ваяводзтве. У рэшце Нацыянальны Камітэт, як такі, выбараў не праводзіў, а быў зарганізаваны асобны выбарны Камітэт. Выбары закончыліся для беларусаў так, што не папаў ані адзін хадэк, ані прадстаўнік Праваслаўнага Аб'еднаньня, так сама і я, як прадстаўнік Беларускага Сялянскага Саюзу, не прайшоў па лідзкім вокрузе, а прайшоў па дзяржаўным сьпіску.

Як бачым ніхто нікому ніякіх правоў не даваў, ды і даваць ня мог, было злучэньне, быў кампраміс. Выясьніўшы справу з боку фармальнага, заяўляю:

1) Будучы паслом у польскім Сойме, бараніў агульных беларускіх справаў, ня дзелячы іх на партыі ці групы, бараніў так, як мог, як умеў і як можна было. Сваю прамову ў гэтай аднадн́ёўцы друкую і аддаю на суд усяго беларускага грамадзянства і не баюся суда, бо ўважаю, што я беларускага народу ня здрадзіў, а калі паном з хадэцыі гэта не падабаецца, — на гэта я нічога не параджу.

2) Уважаю, што хадэцыя разьбіла Б Н.К і няхай гэта ляжыць на адказнасьці тых, хто гэта зрабіў.

3) На ўсякую ці то лаянку, ці іншыя публічныя выпады адказваць ня буду.

4) Правоў ніякіх ні ад каго ня браў і зварочваць іх нікому ня буду; запраўды, панове, выглядаеце як Заглоба: той аддаваў тое, чаго ня меў, а вы адбіраеце тое, чаго не давалі.

**Ф. Ярэміч.**

# Прамова пасла Ф. Ярэміча на пленум Сойму

## дня 6 лютага 1935 г. пры дыскусыі над буджэтам. (Паводле стэнаграмы).

У прошлым годзе пры дыскусыі над буджэтам, я сказаў, што ў Польшчы той урад будзе моцны, які разьвяжа дзьве праблемы, а іменна: 1-ая палітычная праблема — гэта праблема народных меншасьцяў, 2-ая гэта зямельная рэформа. Як відаць, урад польскі стаіць бязрадна перад праблемай народных меншасьцяў, каторыя становяць аж 40% насяленьня. Панове, праўда, хочуць сабе ўспакоіць, абніжаючы лік меншасьцяў да 30 проц. Але унезалежняючы ад таго 40 ці 30 проц. становяць меншасьці, цьвярджу, што дагэтуль ніводзін урад польскі ў працягу больш чым 15 гадоў, не прабаваў разьвязаць проблемы народных меншасьцяў.

Гэта вельмі характэрыстычнае тым больш, што ад часу паўстаньня незалежнае польскае дзяржавы, ўладу мелі ў сваіх руках розныя лягеры польскага грамадзянства.

Калі заглянуць у кароткую гісторыю гэтага ўладаньня, то ўбачым, што толькі некаторыя з іх як нібы прабавалі вясьці перагаворы з той або іншай меншасьцяй з вялікім страхам, але бяз жаднага пляну; але ўсе бяз вынятку стасавалі ў практыцы палітыку сільнай рукі, а некаторыя нават удавалі, што ў Польшы наагул ня існуюць народныя меншасьці. Ужо час падумаць над тым, ці польская палітыка, якая была дагэтуль, дала нейкія пазытыўныя рэзультаты.

Я думаю — не дала яна нічога польскай дзяржаве, як і народным меншасьцям. Але затое выкапала роў паміж польскім народам ды іншымі братнімі народамі, як беларускі і украінскі. (Бурда Б. Б.: Глыбокі гэты роў?) Зараз Вам скажу:

Я падкрэсьліваю, што ёсьць выкапаны роў не паміж тым ці іншым польскім урадам і беларускім народам, але шмат горш, бо паміж самымі народамі. У той сытуацыі найгоршае гэта тое, што з польскай стараны ніхто ня бачыць, ці ня хоча бачыць гэтага паглыбленьня рова.

Некаторыя польскія палітыкі, прыхільнікі ўраду сільнай рукі і сталыпінаўскіх мэтодаў „успакойваньня" бяз рэформаў, ёсьць пераконаныя, што на беларускіх абшарах, дзякуючы гэтым мэтодам „успакойваньня", нарэшце разьвязалася проблема адносінаў да беларускага народу. Аднак у сапраўднасьці пэрманэнтна ідзе барацьба паміж польскім і беларускім грамадзянствам, бо ўжо нятолькі апаратам адміністрацыйна паліцэйскім вядзецца акцыя ўспакойваньня беларусаў.

У помач адміністрацыі прыходзіць большая часьць польскага грамадзянства настроенага шовіністычна і што раз падтрымоўваная (podsycane) ў сваіх шовіністычных поглядах.

Пры такім настаўленьні, і з прычыны недахопу пазытыўнае праграмы разьвязваньня праблемы народных менш., гэта стварае небясьпечнае зьявішча, што каждага беларуса ўважаюць за „antypaństwowca", „wywrotowca" і камуніста, ну, і адпаведна да гэтых назоваў яго трактуюць. А калі нехта з нас асьмеліўся-б заінтэрпэляваць да ўладаў аб нязгоднае з правам, а часамі нялюдзкае трактаваньне то спаткаўся-б з запярэчаньнем самага факту, як нядаўна я: я злажыў інтэрпэляцыі аб біцьці і катаваньні нейкага Моніча ў наваградзкім пав.. я атрымаў ад Міністра Ўнутраных Справаў адказ, які запярэчваў гэтаму здарэньню і што няма падставаў да таго, каб пацягнуць вінаватых да адказнасьці.

А я дастаў пісьмо, як гэта праводзіў баданьне заступнік п. старасты наваградзкага павету, і заяўляю, што тое, што я падаў у інтэрпэляцыі, ёсьць праўдай, а падуладныя п. Міністра Касьцялкоўскага ўвялі яго ў памылку (błąd). Я асабіста знаю п. Міністра Касьцялкоўскага і ня думаю ані на хвіліну, што мог-бы талераваць біцьцё і зьдзекаваньне над безбароннай люднасьцяй. Ведаю, што п. Міністар Касьцялкоўскі гэта чалавек добрай волі, але ён знаходзіцца ў атмосфэры, у якой ён зусім бязрадны і мусіць часамі, паміма сваей волі, ісьці за тым нездаровым цячэньнем, (prądem) якое пануе ў Міністэрстве Унутраных Справаў.

Беларускае грамадзянства, бачачы штодзень гэтыя адносіны да сябе польскага грамадзянства і адміністрацыі, зачыняецца ў сабе і недаверчывасьць яго — не хачу ўжыць больш вострага акрэсленьня — нятолькі ня зьменшываецца, але штораз больш павялічваецца. Роў паміж польскім і беларускім народам робіцца штораз глыбейшы. І гэты сумны факт ёсьць адзіным вынікам дасюлешняй польскай палітыкі. Ня ведаю, ці пробаваў хто небудзь разглядзець прабег польска-беларускіх адносінаў і зрабіць адпаведны баланс stratаў і зыскаў у гэтай справе. Пастараюся выручыць Паноў, тым больш, што сам канец сэймовай кадэнцыі вымагае гэтага рахунку; з другой стараны няведама, ці знайдзецца ў будучым Сойме хоць адзін прадстаўнік незалежнай беларускай думкі, каторы мог-бы сказаць праўду. Калі-б я хацеў вельмі вобразна прадставіць той прабег і рэзультат польскай палітыкі ў адносінах да беларускага народу, не знайшоў-бы лепшага прыкладу, як гісторыя знанага выбітнага прадстаўніка беларусаў б. пасла Тарашкевіча.

Калісь на польскіх штандарах было напісана залатымі літарамі: „Za naszą i waszą wolność". Малады Тарашкевіч, а ці толькі ён адзін, з вялікім энтузыязмам праняўся гэтым лёзунгам і яшчэ на гімназіяльных лавах належаў да нелегальнай польскай арганізацыі. Можа гэта сьцвердзіць тагочасны калега Тарашкевіча, п. пасол Бітнэр і шмат іншых. Потым Тарашкевіч займаючы выбітнае становішча ў беларускім грамадзянстве, у 1920 г. ішоў з іншымі беларусамі на чале літоўска-беларускай дывізыі процiў расейцаў адбіраць ад бальшавікоў беларускія землі, урэшце застаўся сябрам ураду Сярэдняй Літвы.

У 1922 г. Тарашкевіч, стоячы на чале парлямэнтарнага Беларускага Клюбу, вядзе гутаркі з тагочасным прэм'ерам гэн. Сікорскім.

Беларускі Клюб, атрымаўшы прырачэньне ад п. прэм'ера, што высунутыя пажаданьні беларускага грамадзянства будуць заспакоеныя, падтрымліваў урад гэн. Сікорскага, робячыся проўрадоваю фракцыяю.

Прэм'ер польскага ўраду не датрымаў аднак свайго прырачэньня; Тарашкевіч з цэлым Беларускім Клюбам пераходзіць да опозыцыі. Далей, бачачы безкарыснасьць парлямэнтарнай палітыкі, Тарашкевіч заняўся арганізацыяй і палітычна-нацыянальным усьведамленьнем бел. масаў У 1926-27 г. ён стаіць на чале беларускай арганізацыі „Грамады", якую лічылі ні больш ні менш, як толькі на 100 тыс. асобаў. Але гэтая велічыня сяброў Беларускай Грамады і яе далейшае разьвіцьцё выразна занепакоіла абедзьве стараны, польскую і расейска-бальшавіцкую.

Пастараліся, тады, з двух старон разьбіць гэтую беларускую арганізацыю, з ідэалёгіяй народна-незалежніцкай.

У рады гэтай арганізацыі пранікае камуністычны элемэнт і польская конфідэнцыя, і праз соцыяльную дэмагогію ўдаецца камуністычнаму елемэнту і польскай конфідэнцыі зрадыкалізаваць Грамаду. Тады „Грамаду" разьвязваюць польскія ўлады за камуністычныя настроі, а Тарашкевіча засуджваюць на 12 гадоў катаргі.

Я ня думаю гэтага заперэчваць, што Тарашкевіч перайшоў на старану тых расейскіх бальшавікоў, процiў каторых так актыўна і доўга ваяваў.

Наадварот, падкрэсьліваю гэтую палітычную эвалюцыю, якую ён перайшоў.

Панове, ці мог-бы хто з Вас адказаць мне і самому сабе, чаму гэта п. Тарашкевіч — беларус, каторы разам ваяваў за незалежнасьць беларускага і польскага народу, зрабіўся як бы камуністам? Гавару так шмат аб п. Тарашкевічу дзеля таго, што ён зьяўляецца сымболем. Тут ня ідзе аб адзінку. Эвалюцыя, якую перайшоў Тарашкевіч, ёсьць адначасна эвалюцыяй шырокіх бел. мас. І яны адвярнуліся ад Польшчы, а свае надзеі скіравалі на Ўсход, будучы ў засадзе процiў камуністаў, як сялянскія масы. Праўда, і там ня ўбачылі сьвятла. Штораз больш беларускі народ пераконваецца, што ў Савецкай Расеі таксама нішчыцца беларускі рух.

Чуем, што нашых народных дзеячоў, у гэтым і тых, каторыя ўцяклі з Польшчы і каторых ў Польшчы засудзілі на 12 гадоў катаргі, амаль усіх замардавалі, або выслалі на Салоўкі. Але ў якой меры можа быць для Польшчы пацехай тое, што і ў бальшавіцкай Расеі народ не знайшоў задаваленьня?

Ці думаце, Панове, што праз тое самае, што ў бальшэвіі нам дрэнна, зродзіцца ў нас пераконаньне і пачуцьцё, што нам у Польшчы добра? Ці можа Вас задавольніць сьцьверджаньне параўнаўчай мэтодай, што ў савецкай Расеі беларусам горш чым у Польшчы? Для нас зусім няістотнае такое параўнаньне, бо яно нам нічога не дае. Бо-ж зло, калі ёсьць меншае за іншае зло, ня робіцца дабром. Скажаце, паны, што прадстаўляю цяперашняе палажэньне на беларускіх

(Канец на 4-тай ст.).

# ДЭКЛЯРАЦЫЯ ПАСЛА Ф. ЯРЭМІЧА,

## зложаная дня 23 сакавіка 1935 году на пленумэ Сойму, падчас дыскусыі над зьменаю Констытуцыі.

(Паводле стэнаграмы).

Высокі Сойм!

Як прадстаўнік беларускага народу заяўляю наступнае: Мы не шкадуем папярэдняе констытуцыі з дня 17 сакавіка 1922 г., але не захапляемся і новым праектам. Папярэдняя констытуцыя, якая была збудована на дэмакратычных асновах, з пункту гледжаньня тэорыі права, выглядала досыць лібэральна, нават у адносінах да грамадзян няпольскае народнасьці. Але, нажаль, ніколі да нас, беларусаў, у практыцы ня была стасованай.

Бязсумліву, ніхто нэ павінен так змагацца за правы і законнасьць, як прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў, дзеля таго, што закон — іх адзіная абарона. Закон можа быць недасканалы, але мусіць быць выконываны і пастаянны. Нават і да недасканалага закону, калі ён пастаянны і выконываны, грамадзянін можа дастасавацца.

Station Становўча сьцьвярджаю, што ў Польшчы да нас, беларусаў, ніколі закон ня быў стасаваны, ня гледзячы на тое, што пры дзяржаўнай уладзе былі розныя лягеры польскага грамадзянства. Мы мелі не закон, але толькі інтэрпрэтацыю закону, якая залежала ад настрою і асабістага погляду інтэрпрэтатара. Гэта выясьняе, чаму мы не шкадуем папярэдняе констытуцыі. Праект новай канстытуцыі, які сяньня будзе прыняты і станецца законам, аддае ўсю ўладу ў дзяржаве выканаўчым і адміністрацыйным органам. Досьледы апошніх гадоў, не варожаць ніякае зьмены на лепшае ў адносінах да беларусаў. А значыцца і прапанаванай зьменай констытуцыі мы не захапляемся.

Апроч таго ўважаем, што вышэйсказаная зьмена констытуцыі ёсьць выразам нічога іншага, як барацьбы ў самым польскім грамадзянстве, паміж апазыцыяй і кіруючай групай.

Ня хочучы ў гэтай барацьбе быць на адной ці на другой старане, я, як адзіны прадстаўнік беларусаў, заяўляю, што ў галасаваньні над зьменай констытуцыі ўдзелу прыймаць ня буду.

землях у Польшчы праз крывое люстра. Дзеля таго, каб пацьвярдзіць сваё становішча, даю параўнаўчы зарыс польскага уставадаўства і адміністрацыйнай практыкі на нашых землях. Цяпер маем у нас каганцовыя уставы, супольную адказнасьць, праз некалькі гадоў былі палявыя суды, ізаляцыйны лягер, сыстэма палітычнага тэрору; а ў 1922 г., толькі што па заканчэньні вайны, такіх установаў ня было і быў мажлівы спакой. Сяньня маем самаўрадную ўстанову, каторай галоўнай думкай ёсьць нязьлічаная колькасьць выбарчых рэгуляміназ і яна імкнецца да таго, каб мясцовая люднасьць не магла быць у самаўрадзе рэпрэзэнтаванай і ня прыймала ніякага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці.

Дык гэты перагляд, вельмі недакладны, польскага ўставадаўства і эволюцыі мэтодаў адміністрацыйна-паліцэйскіх на нашых землях дае той сам вынік, што і гісторыя з п. Тарашкевічам. Вы завастрылі свой палітычны курс, стварылі каганцовае уставадаўства дзеля таго, што настрой беларускіх масаў зьмяніўся ў няпрыязны для Польшчы спосаб. Я-бы хацеў, каб паны задумаліся калі-небудзь паважна над, прадстаўленай мною, эволюцыяй адносінаў польска-беларускіх.

Узапраўды маеце ў сваёй літэратуры, у сваёй гісторыі, у скарбніцы сваіх палітычных думак сьветлыя карты і літары, якімі можаце зусім слушна гардзіцца.

Чаму польская сапраўднасьць ёсьць так праціўлеглая, ад гэтага адменная! Ці сапраўды Вы перакрэсьлілі свае лятуценьні аб мэсыяністычным пасольстве на ўсходзе Эўропы? Ці польскі народ ня мае ўжо прад сабой большых мэтаў і ці мае цешыцца разбудовай сваей дзяржаўнасьці, ведзенай найгоршымі мэтодамі даўных заборцаў Польшчы? Ці гэтага хапае для польскай рацыі стану: палітычнай думкі, што, насіцелем мэсыянізму польскага на беларускіх землях робіцца польскі паліцыянт, як сымболь фізычнай перамогі?

Рэасумуючы ўсё гэта, уважаю, што ўжо час скончыць з экстэрмінацыйнай палітыкай у адносінах да беларускага народу, бо гэтая палітыка і розныя экспэрымэнты на нашых землях нічога не далі а ні польскай дзяржаве, ані беларускаму народу.

(воплескі на лавах народных меншасьцяў).

# Праваслаўнае Беларускае Дэмакратычнае Аб'еднаньне і Беларускі Нацыян. Камітэт.

Чаму Пр. Бел. Дэм. Аб'еднаньне выйшла з Бел. Нац Камітэту?

Адказываючы на гэтае пытаньне, уперад за ўсё, як прадстаўнік гэтай партыі, заяўляю,— не дзеля таго, што і гэтая партыя, і я былі наагул проціў Нац. К-ту. Наадварот, мы ўважалі і ўважаем гэту арганізацыю за найважнейшую ў нацыянальным, культурным і грамадзянскім жыцьці беларускага народу, як арганізацыю цэнтральную, павінную аб'еднываць сабою ўсе арганізацыі і ўстановы беларускага арганізованага грамадзянства, якія прызнаюць і стараюцца правадзіць у жыцьцё беларускую нацыянальную ідэю.

Адсюль разумеецца, што такі погляд наш на Нацыянальны Камітэт, яго задачы і абавязкі (а мы ўважаем што гэты погляд наш бязумоўна правідловы) прымушае нас чакаць ад Нац. К-ту і адпаведнай дзейнасьці, адпаведных адносін да ўсіх партый, якія ў склад яго ўваходзяць. Па нашаму, сам Камітэт ня можа і *ня мае права вясьці якую-небудзь партыйную палітыку* і дапускаць *у сваім асяродзішчы* майорызаваньне (панаваньне пры помачы большасьці) адной партыі.

Вось чаму, калі ў 1925 годзе ў Нац. Камітэце запанавала фактычна адна партыя — „Грамада“, іншыя партыі хоць былі і слабейшыя, запратэставалі проці гэтай майорызацыі, а калі пратэсты не памаглі, склікалі агульны сход і выбралі новага старшыню і прэзыдыум. Тады ў гэтай „унутраньняй рэвалюцыі“ проціў засільля „Грамады“ самы гарачы ўдзел прыймала Беларуская Хадэцыя, — і рабіла бязумоўна правідлова, бо тады і яна глядзела на Нац. К-т так, як цяпер глядзім мы.

Грамада спачатку старалася пратэставаць проціў гэтай „рэвалюцыі“, але павінна была ўступіць гэтаму моральнаму націску і патроху зьліквідавала рэшткі свайго былога Камітэту.

Пасьля гэтага жыцьцё і праца Нац. К-ту доўга ішла, можна сказаць, зусім нармальна. К-т стараўся чэсна выпаўніць свой галоўны нацыянальны абавязак, дзеля чаго і ў асяродку Камітэту панаваў спакой і здаровыя рэчовыя адносіны паміж прадстаўнікамі паасобных партый і арганізацый. Але ў леташнім годзе, калі па прычынах, аб якіх гаварыць ня будзем, перавага ў К-це аказалася на старане БХД, партыя гэта яўна стала імкнуцца заняць у К-це пануючае палажэньне і *праз Нацыянальны Камітэт* (праз *свае органы*, зразумела, кожная партыя мае права дамагацца ці вясьці прапаганду сваіх ідэй) правадзіць свае палітычныя, а нават і рэлігійныя мэты на шкоду другім партыям і агульна-беларускай справе. Як прыклад такой дзейнасьці, а таксама прыёмаў і тактыкі БХД прывяду такі факт.

Я ў Нацыянальным Камітэце аддаўна быў, як прадстаўнік Прав. Бел. Дэмакрат. Аб'еднаньня і стары правасл. царк. дзеяч, старшынёй царкоўнай камісіі. Паводле праграмы Прав. Бел. Дэм. Аб'еднаньня і згодна з сваімі пераконаньнямі я і гэта Камісія вялі заўсёды „царкоўную палітыку“ у кірунку *царкоўнай свабоды, незалежнасьці Царквы ад сьвецкай улады, і арганізацыі ў духу саборнасьці.*

У гэты час якраз, трэба заўважыць у органе ХД — „Крыніцы“ вялася досыць актыўная прапаганда царкоўнай вуніі. Зразумела, што на гэта яна мае сваё права, — змагацца за *свае* мэты на старонках *сваей* газэты, а — не праз Нац. Камітэт. Але на гэтым грунце ХД не ўстаяла.

Улетку 1933 г. увайшлі пад уплывам ХД у Царкоўную Камісію два маладыя студэнты; я хоць і бачыў у іх асобах людзей іншых царкоўных кірункаў, але, прывыкшы шанаваць чужыя погляды, не перашкаджаў гэтаму. Што-ж яны зрабілі? Не пасьпелі ўвайсьці ў Камісію, як *пры помачы старшыні Нац. Камітэту гр. Пазьняка склікалі „паседжаньне царкоўнай камісіі“, на якое нават не запрасілі і мяне, старшыню Камісіі* (так!) і *ўдвух* (так!) *вынясьлі, як гаворыцца,* „сногсшыбацельную“ *рэзалюцыю* (з поваду пачаеўскіх скандалаў), *якую таксама без майго ведама адразу, пры помачы таго-ж гр. Пазьняка, як рэдактара, надрукавалі ў „Крыніцы“ ад імя Царкоўнай Камісіі.* Я, старшыня гэтай Камісіі, даведаўся і аб гэтым паседжаньні, і аб рэзалюцыі толькі тады, калі прачытаў яе ў газэце. Пратэсты мае перад Прэзыдыумам Нац. Камітэту і перад Рэдакцыяй ні да чаго не давялі і ў „Крыніцы“ надрукаваны ня былі. Апэляцыя мая да пленума Нац. Камітэту прывяла толькі да таго, што пленум ізноў прасіў мяне астацца на чале Камісіі, але ўсей папярэдняй фальшы з паседжаньнем Камісіі і яе пастановай, не спраставаў. Зразумела, што і тады такая закулісная праца ХД проці галоўных асноў царкоўнай праграмы П. Б. Д. А. прымушала мяне і маіх аднапартыйцаў выйсьці з Камітэту і толькі нежаданьне выносіць на вуліцу нашы ўнутраныя беларускія спрэчкі ўстрымала мяне ад гэтага, і мы пакуль што абмежаваліся толькі тым, што выйшлі з царкоўнай камісіі Нац. К-ту і забаранілі сваім сябром уваходзіць у яе. Аб гэтым я заявіў у Нац. К-т і ў Рэдакцыю „Крыніцы“, але ўматываваная мая заява асталася ненадрукаванай, хоць абвешчаньне аб маім выхадзе ў „Крыніцы“ было зьмешчана.

З Нац. Камітэту мы ўсё-ж такі тады ня выйшлі, уважаючы, што пасьля такіх пратэстаў БХД у далейшым устрымаецца ад сваей закуліснай палітыкі ў асяродзішчы Нац. Камітэту.

Аказалася, што не.

Калі на паседжаньні прэзыдыуму Нац. К-ту 7-га сакавіка паднята было пытаньне аб пратэсьце проціў прамовы гр. пасла Ярэміча ў Сойме, я не згадзіўся з гэтым, уперад за ўсё па сутнасьці, бо не знайшоў у гэтай прамове нічога, што магло-б кампрамітаваць Нац. Камітэт, ці наагул беларускую справу, а з другога боку — па прычынах формальных, бо агульна-палітычная справа паводле рэгуляміну вымагала скліканьня *пашыранага прэзыдыуму,* ў які ўваходзіў і гр. Ярэміч. Нарэшце і міжпартыйная этыка і тактыка, якія заўсёды заховываюцца там, дзе ў адну арганізацыю ўваходзяць некалькі партый, таксама вымагала, каб выслухаць Ярэміча перад тым, як судзіць яго. Дзякуючы майму пратэсту на 12-е сакавіка было вызначана *паседжаньне, — пашыранага прэзыдыуму.* Ня гледзячы на тое, што адзін з сяброў яго, гр. Манцэвіч, заявіў, што ён быць у гэты дзень ня можа і просіць перанясьці паседжаньне на другі дзень, ня гледзячы на тое, што я ня мог прысьці ў назначаную гадзіну, папярэдзіўшы Нац. К-т, што спазьнюся, — на тое, што Ярэміч як пасьля аказалася, не атрымаў запросін на паседжаньне, — ня гледзячы, кажу, на ўсё гэта, гэты *„пашыраны“ Камітэт з трох асоб* (так)! *ведаючы добра, што другія тры асобы з імі нязгодны,* хутка, нават не чакаючы майго прыходу, зрабіў, сваю пастанову і хутка, здаецца ў той самы вечар, аддаў яе для апублікаваньня ў польскую прэсу...

На наступным паседжаньні я і грам. Манцэвіч проціў гэтага злажылі ў прэзыдыум пратэст адпаведнага зьместу і заявілі, што будзем апэляваць да пленуму Нац. К-ту.

Пратэст наш апублікованы ў прэсе ня быў, ня было зьмешчана і наша з грам. Манцэвічам пісьмо да рэдакцыі „Крыніцы“.

Як прайшла на пленуме справаздача прэзыдыуму і галасаваньне маей рэзалюцыі па гэтай справаздачы, аб гэтым разсказвае ў сваёй стацьці гр. Манцэвіч і я паўтараць ня буду. Як аўтар яе, я толькі яшчэ раз не магу ня выразіць свайго зьдзіўленьня, па якіх законах лёгікі яна апынулася ў бягучых справах аб зьмене рэгуляміну, калі на ёй было напісана, што гэта проект *рэзалюцыі* і каму я даручаю яго падаць пасьля дыскусіі?

Трудна ў кароткай стацьці перадаць усе тыя ці іншыя абставіны і выпадкі, якія пераканалі мяне і іншых сяброў маей партыі ў тым што ХД з нашым кірункам у асяродзішчы Нац. Камітэту вядзе барацьбу і пры тым ня шчырымі і ня простымі спосабамі.

Дзеля ўсяго гэтага я, як стары царкоўны дзеяч, і сябры маей партыі пастанавілі выйсьці з Бел. Нац. Камітэту і не ўваходзіць у яго, пакуль там не перастануць панаваць заведзеныя парадкі, Камітэт ня станець ізноў на правідловую дарогу, якая будзе адпавядаць яго ўзапраўдным мэтам і абавязкам.

**В. Багдановіч.**

# Пісьмо ў рэдакцыю „Беларускай Крыніцы“, якое ня было надрукована.

ДА РЭДАКЦЫІ
„БЕЛАРУСКАЯ КРЫНІЦА“.

Ў сувязі з надрукаваным у № 13(606) „Беларускай Крыніцы“ за 17 сакавіка камунікатам Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, ў справе прамовы пасла Ф. Ярэміча ў Сойме дня 6 лютага, гэтым падаем да агульнага ведама, што пастанова Прэзыдыуму ў гэтай справе была зроблена ў нашай адсутнасьці і адказнымі за яе зьяўляюцца асобы яе падпісаўшыя, але ня ўвесь Прэзыдыум Бел. Нац. К-ту ў яго поўным складзе.

Сябры Прэзыдыуму Б. Н. К.
**В. Багдановіч.**
**М. Манцэвіч.**

8-IV-1935 г.

Выдавец: М. МАНЦЭВІЧ. Друк. Я. Баеўскага. Вільня, Татарская вул. 13.